 журавы: **Можна спаць і вучыцца**

 **Ці хочаш адбыць пробу агню?**

 **У абарону Дзядзькі Левана**


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 15 (424) | ГОД IX | 12 КРАСАВІКА 1964 г. | ЦАНА 60 ГР


ЛЮДЗІ ДВАЦЦАЦІГОДДЗЯ



Калісьці, калі бегаў яшчэ ў адной кашулі, марыў стаць вясковым столерам. Як бацька, за працай якога пільна сачыў маленькі Болек. Далей яго мары не сягалі.

Сонечны дзень сакавіка. Ідзем па прасторнай плошчы Гайнаўскага прадпрыемства драўніннай прамысловасці. Рабочыя з пашанай вітаюцца:

— Добры дзень, дырэктар!

Так, гэта ён, Баляслаў Суліма, Болек, які марыў стаць столерам. Яго вітаюць рабочыя, яму аддаюць гонар.

— Тут, на гэтым месцы, пачынаў я сваю працу на прадпрыемстве, — гаворыць дырэктар Баляслаў Суліма, паказваючы штабялі пахнучых жывіцай дошак.

Было гэта 29 год таму. Майстар загадаў грузіць дошкі на возік і вывозіць іх на склад. Тады не было сучаснага прадпрыемства, якое высылае сваю прадукцыю ў дзесяткі высакаразвітых краін, а была толькі гайнаўская лесапільня. Было цяжка, але ўспаміналася яшчэ цяжэйшае.

Меў Болек не больш трох год. Жылі ў вёсцы Седліска, Лукаўскага павета, на Любліншчыне. Жылі? Надта ж агульнае слова! Каб неяк пражыць, бацькі змушаны былі ехаць на заработкі ў... Германію. Малы Болек застаўся з дзедкам і бабкай. Тата і мама ехалі працаваць, зарабляць грошы. Не маглі ўзяць з сабой малога сына. Вярнуліся пасля чатырох год багацейшыя на... адно дзіця.

Шукаючы заработку, бацькі Болька прыехалі ў пасёлак Чаромуха. Маніла рухлівая вузлавая станцыя. Тут Баляслаў канчае сёмы клас пачатковай школы. Канчае на выдатна. Хацелася б вучыцца далей. Кіраўнік школы нагаварвае бацьку. Але школа аж у Брэсце. Плаціць за навуку штомесяц трэба па 30 злотых (прыблізна 2 цэнтнеры жыта), а яшчэ наняць кватэру і аплаціць харчаванне. Няма чаго марыць. Баляслаў дапамагае бацьку габляваць аконныя рамы. Потым Гайнаўка. Лесапільня.

Пасля вызвалення Баляслаў Суліма атрымлівае загад: аднавіць спаленую электрастанцыю. Суліма заўсёды быў кемлівы да чарчэння. Па памяці ўзнаўляе тэхнічную дакументацыю, а потым старадаўнім метадам: «эх, дубінушка, ухнем!»

Высока над галавой хітрая блытаніна бэлек.

— Вось гэта, між іншым, мая работа, — успамінае дырэктар. Праца гэтая амаль не каштавала яму жыцця. Аб гэтым аднак дырэктар гаворыць неахвотна. «Рызыканцтва!» — адмахваецца. Гэта праўда, але дзякуючы такому «рызыканцтву» яго і другіх людзей (майстар Стэльмашук або Маліноўскі) разбураная гітлераўцамі лесапільня пачала даваць прадукцыю ў 1945 годзе.

— Як нам плацілі, пытаеце? Крыху прадуктамі, крыху грашамі, а рэшту — дошкамі. Так! Дошкамі. Трэба было прадаваць гэтыя дошкі і неяк вязаць канец з канцом.

Патрэбна мэбля. Суліма атрымоўвае тры машыны, людзей і распіску і адпраўляецца на пошукі абсталявання сталярні. Знайшлі аж у Галдапі. Сталярня працуе па сённяшні дзень. У многіх памяшканнях знойдзеце моцную белую, кухонную мэблю, якую тут робяць. Яе прадукцыю пачынаў Баляслаў Суліма. Быў першым кіраўніком сталярні. Мары яго тады збыліся, але лёс хацеў інакш.

1 студзеня 1952 года Гайнаўскую лесапільню пераўтварылі ў прадпрыемства драўніннай прамысловасці. Патрэбны быў дырэктару намеснік па тэхнічных справах.




У дырэктарскім кабінеце сядзяць Мартынюк, Сокал, Стэпкі і другія, шмат старэйшыя за Суліму майстры, ударнікі дрэваапрацоўчай прадукцыі. Ніхто не хоча прыняць на сябе адказнасці галоўнага інжынера прадпрыемства. Рашаецца ён, Суліма, наймалодшы сярод іх.

Цяпер рэдка бачаць яго жонка і дзеці. Званне галоўнага інжынера прадпрыемства забавязвае. Няма рады. Трэба вучыцца. Хто мог бы цяпер пералічыць недаспаныя ночы! У 1954 годзе Баляслаў Суліма мае ўжо дыплом інжынера, а 1 жніўня гэтага ж года галоўнае праўлен-

(Працяг на стар. 4)



Новы аўтаматызаваны цэх Гайнаўскага прадпрыемства драўніннай прамысловасці.

ПАПОЎНІМ БАЯВУЮ ЛЕТАПІСЬ

# ПІСЬМО БЫЛОГА КАМАНДЗІРА ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ

**Беласток. Рэдакцыя газеты «Ніва».**

Дарагія і паважаныя сябры!

Піша Вам былы камандзір партызанскай брыгады «У імя Радзімы» Беластоцкага партызанскага злучэння Янкоўскі Міхаіл Рыгоравіч (Мартынаў). Брыгада наша прайшла вялікі шлях ад вярхоўя Нёмана да Заходняга Бугу і вясною 1944 года спынілася ў Белавежскай пушчы. Нашы партызаны дзейнічалі ў раёнах Гайнаўкі, Бельска, Бранска, Нараўкі, на поўдзень і захад ад Белавежскай пушчы. З вайскамі Савецкай арміі мы злучыліся на тэрыторыі Гайнаўка — Бранск.

Але наша брыгада не з'яўляецца аснавальнікам партызанскага руху ў гэтых месцах. Пачынаючы ад 1941 года тут былі арганізаваны і дзейнічалі мясцовыя, хаця і невялікія, партызанскія атрады і групы, якія з прыходам сюды нашай брыгады ўліліся ў яе склад. Адзін партызанскі атрад дзейнічаў у раёне вёскі Снежкі, другі — недалёка ад Гайнаўкі на заходняй ускраіне Белавежскай пушчы і трэці — у Бранскіх лясах. Гэтыя атрады мелі шырокую сетку сваіх сувязных у многіх вёсках Беластоцкага ваяводства.

Пасля вайны прайшло ўжо 20 год, але ў маёй памяці ніколі не затруцца нашы сустрэчы з гасціннымі жыхарамі Беласточчыны, якія заўсёды з вялікай цеплынёй прымалі нас і, чым толькі маглі, дапамагалі ў нашых баявых справах супроць нямецкіх захопнікаў. Многія жыхары і самі зрабілі шмат геройчных подзвігаў. Яны ўтрымлівалі ў сваіх сядзібах нашы падпольныя партызанскія шпіталі, лячылі нашых раненых у баях партызан, дастаўлялі партызанам шмат зброі і боепрыпасаў, медыкаменты з аптэк варожых гарнізонаў, выконвалі складаныя заданні нашай разведкі, рабілі вельмі многа іншых карысных баявых спраў.

Набліжаецца вялікае свята польскага народа — 20-я гадавіна Польскай Народнай Рэспублікі, якую Вы будзеце адзначаць 22 ліпеня г.г. З гэтага выпадку Праўленне Таварыства Польска - Савецкай Дружбы ў гор. Беластоку запрасіла мяне прыняць удзел у сустрэчы партызан, якая адбудзецца 22—26 мая 1964 года. Праз Вашу газету я хачу перадаць шчырую падзяку за гэтае запрашэнне, якое я з радасцю прымаю і абавязкова прыеду на сустрэчу ў вызначаны час.

Адначасова **я хачу звярнуцца да ўсіх былых партызан і партызанак нашай брыгады, да ўсіх сувязных, якія цяпер заняты працай у першых радах будаўнікоў сацыялізма ў вашай краіне, каб яны ўспомнілі ўсе падрабязнасці вялікай геройчнай барацьбы ў гады вайны, з тым разлікам, каб ніхто з дастойных не быў забыты.** Ад імя ўсіх савецкіх партызан нашай брыгады я хачу выказаць шчырую падзяку жыхарам усходніх раёнаў Беластоцкага ваяводства, якія аказалі вялікую дапамогу ў выкананні паручаных нам партыяй баявых заданняў у гады вайны.

Мне вельмі хочацца спаткацца са сваімі былымі баявымі сябрамі і сяброўкамі, і я спадзяюся, што такая сустрэча адбудзецца не толькі з імі, але і з працоўнымі тых месц, у якіх дзейнічала наша брыгада. Гэта яшчэ больш паслужыць справе ўшанавання вялікай і непарушнай дружбы польскага і савецкага народаў, справе ўмацавання міру ва ўсім свеце.

Шчырае прывітанне Вам, дарагія сябры. Ад імя ўсіх нашых партызан віншую вас з Вашым вялікім святам — 20-й гадавінай Польскай Народнай Рэспублікі. Да хуткага спаткання!

З прывітаннем і павагай былы камандзір партызанскай брыгады «У імя Радзімы»

**М. ЯНКОЎСКІ**

19.III.1964 г.

**АД РЭДАКЦЫІ: Усіх, хто можа папоўніць баявую летапісь партызанскай брыгады «У імя Радзімы» з перыяду яе дзейнасці на Беласточчыне, просім звязацца з нашай рэдакцыяй. Просім таксама дасылаць успаміны і іншыя матэрыялы, якія маюць дачыненне да гэтай брыгады.**

УВАГА, ЧЫТАЧЫ!

# Што сталася з баронам фон Гольдрынгам?

З такімі пытаннямі звярталіся да нас чытачы, калі мы закончылі друкаваць аповесць Дойльд-Міхайліка п.з. «Барон фон Гольдрынг». Як вядома, аповесць заканчвалася сцэнай развітання Гольдрынга з італьянскімі партызанамі, пасля ўдачнай аперацыі па ліквідацыі эсэсаўскага генерала Бертгольда і вызвалення вязняў падземнай сакрэтнай фабрыкі. Гэта было пад канец вайны. Нядаўна Дойльд-Міхайлік прадоўжыў расказ аб сваім героі на пасляваенны перыяд. Гэта кніга не менш хвалюючая, чым першая, і таму мы вырашылі пазнаёміць сваіх чытачоў з далейшым лёсам Генрыха. Неўзабаве пачнем друкаваць другую кнігу аб далейшых прыгодах савецкага разведчыка — «Барон фон Гольдрынг пасля вайны».




## ПАДАРУНАК ЭКСКУРСАНТАМ

Новы будынак музея прыроды ўзведзены на ўзлессі Белавежскай пушчы. Ён дасць наведвальнікам сістэматычны і разнастайны агляд жывёльнага і расліннага свету запаведна - паляўнічай гаспадаркі, дзе жывуць унікальныя звяры -асілкі і растуць дрэвы-волаты.



Група маскоўскіх мастакоў - дэкаратараў працавала тут над кампазіцыйна-прасторным афармленнем унутраных памяшканняў. Жывапіс на сценах адлюстроўвае флору і фаўну пушчы.

Чучалы жывёл і птушак, гербарны матэрыял, калекцыі насякомых чаргуюцца з дэкаратыўнымі пано, буйнафарматнымі фота, на якіх паказаны копіі гістарычных дакументаў і старадаўніх гравюр. розныя сцэны з жыцця гэтага славутага лесу. Можна тут убачыць першых жыхароў пушчы, даведацца, як вялося паляванне даўней, што робіцца для аховы зялёных багаццяў пушчы ў нашы дні. Адна з залаў прысвячаецца воднаму царству — азёрам, рэкам, балотам, другая — птушкам. Жывёльны свет прадстаўлены зубрамі, рысямі, ласямі, мядзведзямі, куніцамі, вавёркамі.

Новы музей пушчы — цудоўны падарунак экскурсантам.

С. Ратан
(«Беларусь»)

## ПІСЬМО МАРАНЦАЎ У ПАВЕТ

**Школа — цэнтрам культурнага жыцця. У Гайнаўскім павеце ўжо ёсць некалькі такіх школ - цэнтраў. Найлепш да нядаўна працаваў цэнтр пры школе ў Старым Корніне. Хвалілі яго ў павеце. Пахвалой Корніна пачула сябе пакрыўджанай суседняя вёска Мора. Ці ж мы горшыя? Напэўна, не. Маем амбіцыі і ахвоту да працы, таксама як і нашы суседзі. І павандравала пісьмо маранцаў у павет, з якога ў павеце цешацца. Падаем поўны змест пісьма.**

Кіраўніцтва Пачатковай школы ў Моры даносіць, што рушыла ў нас праца пад лозунгам «Школа — цэнтрам культурнага жыцця». Святліцы не маем і ўся наша дзейнасць адбываецца ў школе. Кіраўніком цэнтра з'яўляецца кіраўнік школы Юзэф Зінкевіч.

Вось наша праца і нашы планы.

Праводзіцца праблемны курс па беларускай мове. Раз у тыдзень (пятніцы) высвятляюцца апаратурай кіно «Арол» з Орлі кінафільмы. Тры дні ў тыдзень арганізуюцца вечары пры тэлевізары (часам часцей). Моладзь карыстаецца школьным тэнісным сталом. Маем тэатральны гурток (15 асоб), які падрыхтаваў дзве п'есы на беларускай мове — «Міхалка» і «Грамы». Моладзь карыстаецца школьным радыёпрыёмнікам і адаптэрам. У школьнай зале выступаюць тэатральныя гурткі з іншых вёсак, адбываюцца тут сходы ЗМВ і БГКТ, а таксама сельскагаспадарчае навучанне пры тэлевізары. За 1963—64 год аматарскія гурткі дарослых і школьны выступілі ў школе 12 разоў. Сярэдняя колькасць гледачоў на фільмах — 70 асоб, на выступленнях гурткоў — 160 асоб. Хочам арганізаваць курс гатавання і пячэння. Матацыклетны курс закончыла ўжо 25 асоб.

Просім аддзел культуры купіць нам светліцовыя гульні і більярдны стол. (вл)

## КЛЯШЧЭЛЯЎСКІЯ ВЫСТАЎКІ



### СІВАКІ

Кляшчэлі і аколіца — гэта кераміка. Якраз тут умелымі рукамі вычароўваюцца папулярныя, шырока вядомыя ў краіне і за граніцай беластоцкія сівакі.

Кляшчэляўскія майстры выйшлі з вузкіх рамак сваёй спецыяльнасці. Яны не толькі робяць гаршкі з шырокімі горламі, але і міскі, і місачкі, траякі і дваякі, з вушамі і без іх, пузатыя і плоскія. Патрапяць вычараваць са звычайнай гліны розныя цуды.

На здымку бачым кляшчэляўскія экспанаты на выстаўцы ў школе. Тут экспануюцца працы двух найслаўнейшых кляшчэляўскіх мастакоў Уладзіміра Главацкага і Лявона Саласцюкевіча.

### КАНТРАСТЫ

Два здымкі, але як жа розныя, хоць зробленыя адным чалавекам, у той самай мясцовасці і ў тым самым часе. Але глядзім і адразу думаем: адзін з іх мінулае, якое часам яшчэ слабымі карэннямі сядзіць у нас, а другі — гэта наша сучаснасць і... будучыня. Кантрасты, паказаныя фотааб'ектывам уважлівага фатографа, аб многім гавораць. А ўважлівасць смела можна прыпісаць кляшчэляўскаму фатографу Эдуарду Весялоўскаму. Невялікая выстаўка яго прац здзіўляе ўменнем назіраць.

Кляшчэлі, якія мінаюць, і Кляшчэлі, якія надыходзяць, — так каротка можна было б акрэсліць змест выстаўкі.

На першым здымку — найстарэйшая і апошняя хата даўнейшых Кляшчэль, на другім — Кляшчэлі цяпер.

Вера Леўчук








Аб магчымасці вучыцца ў сне людзі здагадваліся вельмі даўно. Кажуць, што яшчэ ў старажытных будыйскіх храмах манахі начамі нашэптвалі сваім вучням тэксты святых кніг.

Было гэта ў 1936 годзе. У адной з ленінградскіх клінік траім дзяўчынкам прачыталі некалькі разоў у час сну цікавае апавяданне. Назаўтра, ледзь прачнуўшыся, адна з іх пачала расказваць гісторыю, нібы бачаную ў сне.

— Адкуль ты ведаеш, што мне снілася? — здзівілася другая дзяўчынка. — Не, гэта я бачыла, не чапай маіх сноў! — закрычала трэцяя...

Гэта быў перцы ў свеце навуковы дослед над выяўленнем магчымасцей успрыймання мовы ў час натуральнага сну. Правёў яго А. М. Свядашч, цяпер прафесар, доктар медыцынскіх навук. У наш час асабліва зацікавіўся гэтым украінскі вучоны Леанід Блізнічэнка. Яшчэ ў 40-ых гадах, нічога не ведаючы пра доследы Свядашча, ён цікавіўся, наколькі моцны павінен быць гук, тон, глыбіня сну, пры якім найбольш дакладна ўспрыймаецца мова.

І так, можна вучыць толькі ноччу. Удзень можна займацца з настаўнікам, а ўначы замацоўваць свежа вывучаны матэрыял у памяці. Блізнічэнка выпрацаваў метад, паводле якога вучні на працягу дня некалькі разоў, па пятнаццаць мінут, і перад сном пераглядаюць матэрыял, які будуць замацоўваць ноччу ў памяці.

«Ці заўважылі вы, — расказвае Блізнічэнка, — што астатнія пятнаццаць мінут перад сном чалавек успрыймае ўсё надта зостра і напружана? Іменна ў гэтыя лічаныя мінуты нараджаюцца часамі новыя думкі, важныя рашэнні. Вось мы стараемся выкарыстоўваць гэтакую асаблівасць чалавечага засынання. У астатнія мінуты перад сном мы прымушаем працаваць усе віды памяці — зрокавую, слухавую... Потым адна за другою яны паволі заціхаюць...»

Вадзім Валашчук, 24-гадовы інжынер - хімік, адзін з першых «начных» студэнтаў Блізнічэнкі.

— Смешна ўспамінаць, — прызнаецца Вадзім, — але я паціху заўсёды ненавідзеў замежныя мовы. Падумайце самі: нямецкай вучыўся ў школе, у інстытуце, браў прыватныя ўрокі. Усё без вынікаў. А тут праз дваццаць дзве ночы загаварыў па-англійску. (Курс навучання ў Блізнічэнкі разлічаны на месяц. Заняткі адбываюцца пяць разоў у тыдзень. Разам 22 ночы).

— Як вы адчувалі сябе, калі пачалі вучыцца тут? — спыталі Вадзіма.

— Вядома, я спадзяваўся ўсякіх неймаверных рэчаў, нерваваўся. Думаў, што будуць сніцца каляровыя сны, што ўсё пачутае нейкім спосабам увасобіцца ў вобразах. На самай справе ўсё вельмі простае. Я, шчыра кажучы, нічога не чуў, і сны сніліся мне самыя звычайныя. Толькі першы раз, калі ранкам адказваў на «урок», было дзіўнае адчуванне — словы, быццам праяўляліся на фатаграфічнай паперы, усплывалі ў памяці з нічога, здаваліся даўно і добра знаёмымі.

А ўсё ж такі, якім спосабам веды трапляюць нам у галаву ноччу? Цудаў жа ж няма.

(Працяг на стар. 4)

---

— Ну што ж, я казаў, што ад вас будзе залежаць справа працы на вакзале. — Сказаў начальнік. — Мы не патрабуем ве.аць, ці вы належалі да камуністычнага руху, але хсчам упэўніцца, што належаць не будзеце і гэта трэба вось тут падпісаць, — паказаў ён пальцам на паперку і зараз з націскам закончыў: — Без падпісання да працы не прымем.

Я, сказаўшы «да пабачэння», павярнуўся да дзвярэй і выйшаў з пакоя. Ідучы дахаты думаў: «Вось як у горадзе робяць правакатарамі. Надта ж проста і нескладана сапраўды «проста з моста». А калі ўвечары расказаў я зайшоўшаму да нас спецыяльна, каб даведацца пра справы, Клімчуку дык той абурыўся на мяне, што не падпісаў я паперкі.

— Бачыш, начальнік хоча на ўсякі выпадак забяспечыцца і таму толькі прапанаваў падпісаць, — стараўся Клімчук апраўдаць начальніка.

— Не, дзядзька Клімчук, гэта не забеспячэнне начальніка, а рука палітычнай паліцыі, якая хоча зрабіць з мяне свайго слугу супраць майго, а гэта ж і вашага народа. Гэта дарога не для мяне.

А бацька мой, са слязьмі ў вачах пацвердзіў:

— Так, сынку, гэта дарога не для цябе. Неяк будзем жыць без панскай службы, але з гонарам і чыстым сумленнем.

У пачатку красавіка ўдалося мне атрымаць работу пры будове на Фарштаце, каля фанернай фабрыкі, вялікага складу на бензін. Працаваў я чорнарабочым і зарабляў па 3 злотых, а потым — пасля некалькідзённай забастоўкі ўсіх працуючых рабочых, па 3,50 зл. у дзень. Працаваў я на гэтай будове да ліпеня, аж пакуль туды не дасягнула лапа дэфензівы (палітычнай тайнай паліцыі). Па яе загаду мяне і яшчэ двух камуністаў, якія таксама сядзелі ўжо ў турме, звольнілі з работы. Потым ужо мне нідзе не ўдалося знайсці пастаяннай работы: быў або беспрацоўным, або працаваў па некалькі дзён. Затое пастаяннай, вельмі трывалай і ўпорнай была мая работа ў радах камуністычнага руху.

У канцы красавіка мяне паклікалі на вайсковую камісію, якая прызнала мяне прыдатным да вайсковай службы ў кавалерыі. Але пайсці да войска не давялося, бо на прапанову пракурора акружны суд у Гродна ў чэрвені 1930 года на няяўным пасяджэнні вырашыў пазбавіць мяне на 10 год грамадскіх, вайсковых і ганаровых правоў, г.зн. аж да чэрвеня 1940 года не мог я служыць у войску, быць выбраным у грамадскія ўстановы, не мог выбіраць і не мог крыўдзіцца на зняваru майго гонару.

БЕЛАРУСІЯНА

## „НЕНАСЫТНЫЯ СЭРЦЫ"

Чытачы «Нівы» напэўна прыпамінаюць наш мінулагодні артыкул аб уроцлаўскай пісьменніцы Эміліі Кунавіч, якая працавала над раманам «Ненасытныя сэрцы», прысвечаным жыццю даўняй беларускай вёскі («Ніва», № 47). Вось гэтымі днямі раман з'явіўся ўжо ў кнігарнях. Яго выдала Людова спулдзельня выдаўніча ў Варшаве.

Кніга Э. Кунавіч уводзіць нас у адлеглую рэчаіснасць беларускай вёскі на Віленшчыне. Перад вачыма чытач аўтар разгортвае яе даўняе жыццё, якое здзіўляе нас сваімі хмурнымі замалёўкамі. Гэта жудасны свет прывідаў, якія наведваюць хворага ракам галоўнага героя рамана — колішняга настаўніка ў невялікай вёсцы Забалоцце. Пад уплывам морфія, які ўпрыскваюць хвораму, ён і мае гэтыя прывіды. Таму усё, што дзеецца ў рамане, набывае нейкі нештадзённы, вычварны характар. Нягледзячы на гэта, Э. Кунавіч дае нам сапраўдныя замалёўкі рэчаіснасці ў беларускай вёсцы — рэчаіснасці, якую парадзіў капіталістычны лад у Польшчы міжваеннага дваццацігоддзя.

# Можна спаць і вучыцца

(Працяг са стар. 3)

— Да гэтага часу лічылася, — гаворыць Свядашч, — што, калі я яшчэ што - небудзь чую, значыць, я не сплю. А тут, наадварот, і ў сне мы чуем, але не ўсведамляем таго. Прыпомніце радыётэлеграфістаў. Яны засынаюць над апаратам, але імгненна прачынаюцца ад гукаў сігналаў сваёй станцыі. Маці схапляецца з пасцелі, пачуўшы нават слабы шолах у калысцы дзіцяці.

Усе мы, калі ў нас штосьці не клеіцца, асабліва з замежнымі мовамі, знаходзім сабе мноства вытлумачэнняў, зваліваем на нядобрую памяць, на недахоп здольнасцей. Пры начным навучанні двоечнікаў няма. Студэнты Блізнічэнкі вучацца толькі на пяцёрках, памятаюць ад 95 да 100 працэнтаў усіх слоў. Прытым, век не мае значэння. Людзі, якія маюць пад шэсцьдзесят год, ні ў чым не ўступаюць маладым.

Цяпер за ноч у Кіеве вывучаюць па сорак слоў. Але гэта толькі пачатак. Свядашч і Блізнічэнка цвердзяць, што ў бліжэйшыя гады можна будзе вывучыць да 400 слоў за ноч. Метады будуць удасканалены.

Навучанне ў сне выклікае сенсацыю ва ўсім свеце. Гэта справа датычыць у большай ці меншай меры кожнага з нас. Кожны дзень жыццё засыпае нас лавінаю навін. З году ў год мяняецца сэнс і функцыі прафесій. Тое, што было добрае ўчора, сёння становіцца ўжо ўстарэлым, той, хто ўчора быў вялікім спецыялістам, сёння можа аказацца звычайным нядзараю. Жыццё патрабуе ад чалавека безустанку вучыцца, вучыцца штораз больш і хутчэй, каб не застацца ззаду, непатрэбным. Недасыпаем, стараемся адваяваць ад сутак лішнія мінуты, трачаныя на сон. На жаль, цікавасць начным навучаннем становіцца найзвычайнейшаю модаю. Тыя, што маюць магнітафоны, спрабуюць сябе вучыць сілаю, гвалтам. Адны пры тым засынаюць, бы анёлы, і пасля нічога не памятаюць. З другімі здараюцца вясёлыя казусы. Кажуць, нейкі масквічанін для жарту навучыўся мала вядомай экзатычнай мовы, і цяпер ніяк не можа яе пазбыцца, забыць. У многіх магнітафоны працуюць цэлую ноч, а потым дзівуюць, чаму баліць галава. У спальнях Блізнічэнкі магнітафон за ноч уключаецца ўсяго на некалькі дзесяткаў мінут.

(а-ся)

## З жыцця БГКТ

# У новае памяшканне патрэбны тэлевізар

Дагэтуль праўленне сямяціцкага аддзела БГКТ у Мілейчыцах знаходзілася ў вельмі цесным памяшканні. А ў цесным памяшканні цяжка разгортваць культурна - асветную працу. Зараз зусім інакш. Нядаўна праўленне аддзела БГКТ атрымала ад прэзідыума ГРН новае прасторнае памяшканне. У ім аддзел арганізаваў клуб-чытальню беларускіх і польскіх газет і часопісаў. Тут таксама можна прачытаць цікавую беларускую кніжку, пагаварыць аб яе змесце. Няма толькі тэлевізара. Але хутка купім яго. Пры аддзеле арганізаваўся грамадскі камітэт пакупкі тэлевізара. Ён звярнуўся з просьбай да паасобных устаноў і прадпрыемстваў Сямяціцкага павета, каб яны прызначылі пэўныя сумы на развіццё культурна - асветнай дзейнасці для беларускай меншасці. Зварот аддзела прыхільна прынялі ўстановы і прадпрыемствы і ўжо перадаюць нашаму праўленню пэўныя грашовыя сумы. Так што хутка будзе і тэлевізар у новым памяшканні аддзела.

Сакратар праўлення Сямяціцкага аддзела у Мілейчыцах
**Сяргей Крэйза**

# Дапамагаем будаваць школы

20 і 21 сакавіка 1964 г. адбылося ўрачыстае пасяджэнне Павятовага Камітэта Фронта адзінства народа і Павятовай Рады Нарадовай у Бельску - Падляшскім. На гэтым пасяджэнні абмяркоўваўся план адзначэння 20-годдзя ПНР. Урачыстая сесія прыняла абавязацельства выканаць план складчын на грамадскі фонд будовы школ да 22 ліпеня г.г.

Добрыя водгукі на гэты заклік трэба адзначыць на прадпрыемствах і ва ўстановах Бельшчыны. Усё ж перадавой у галіне складчын на ГФБШ з'яўляецца школьная моладзь, якая на дзень 20 лютага выканала свае заданні на 60,7%. Правільна зразумелі справу многія сяляне, складчына якіх мае рашаючы ўплыў на выкананне павятовага плана. Добра аднёсся да выканання складчын актыў Фронта адзінства народа ў ГРН Пасынкі. На ўвагу заслугоўваюць усе працаўнікі прэзідыума ГРН у Пасынках, якія ўплацілі ўжо складкі ГФБШ за ўвесь 1964 год. Яны разумеюць, што ўласны прыклад дае найлепшыя эфекты. Не малы ўдзел у дасягненнях пасынскага актыву адыгралі старшыня ГРН М. Весялоўскі і сакратар М. Кавальчук.

Сяляне гэтай грамады ўжо ў гэтым годзе перадалі на ГФБШ больш 16 тысяч зл. Вялікае зразуменне такой важнай грамадскай справы, як пабудова 1000 школ на Тысячагоддзе Польшчы, выказалі таксама сяляне вёсак Сакі, Зубава і Катлы. Ніканор Паўлючук, Янка Несцярук, Мікалай Лазавік, Янка Паўлючук з Сакоў, Цімафей і Андрэй Карпюк з Зубава і іншыя адразу ўплацілі гадавыя належнасці.

Аднак і ў Пасынскай ГРН ёсць і такія, што нядбайна, халатна адносяцца да гэтага. Да такіх трэба залічыць жыхароў вёскі Трашчоткі, Пасынкі і Локніца. Дрэнны прыклад даюць тут солтысы, якія не спяшаюцца з выкананнем сваіх абавязкаў. А пара ўжо абудзіцца актывістам гэтых вёсак. 22 ліпеня недалёка, а яшчэ бліжэй палявыя работы. Для інфармацыі падаем, што ў Бельскім павеце трэба пабудаваць у 1965—1970 гадах не менш 20 школ.

**Аляксей Карпюк**
Бельск

# УВАГА, БЕЛЬШЧАНЕ

**У наступным нумары чытайце дзённік савецкага лётчыка з першых дзён вайны. Апісвае Бельск і паветраныя баі ў раёне горада.**

# Белы пакой ліцэя



Сярод мноства дзвярэй у будынку Беларускага ліцэя ў Бельску гэтыя нічым не адрозніваюцца. Глянем аднак, што за імі. І пазнаем — гэта лекарскі кабінет. Міжшкольны, г.зн. для моладзі з некалькіх школ Бельска. Прэзідыум павятовай рады нарадовай добра абсталяваў кабінет.

2 000 пацыентаў абслугоўваюць тут два лекары: зубны — Людміла Калішук (на здымку) і інтэрніст — Тацяна Зелянкевіч. Абодва лекары — выпускнікі гэтага ж, Беларускага ліцэя.

Белая абстаноўка пакоя, белыя халаты — дзеля таго, каб такімі ж белымі былі зубы школьнай моладзі.

(вл)

Фота ІР

# Добры дзень, дырэктар!

(Працяг са стар. 1)

не Аб'яднання драўнінай прамысловасці назначае яго галоўным дырэктарам прадпрыемства.

Здарылася гэта амаль 20 год пасля таго, як Баляслаў Суліма першы раз прайшоў вароты гайнаўскай лесапільні як звычайны некваліфікаваны рабочы.

— Нават дзеці мне не хочуць верыць, што так магло быць, — сцвярджае інжынер Суліма.

Дзеці? Ёсць іх трое. Дзве дачкі і сын. Старэйшая канчае ўжо факультэт хіміі Варшаўскай палітэхнікі, малодшая толькі што закончыла ліцэй і выбіраецца, зразумела, далей вучыцца, а сын яшчэ ў трэцім класе пачатковай школы. Маючы такія добрыя ўмовы для жыцця і навукі, сапраўды могуць бацьку не верыць

**ВІКТАР РУДЧЫК**
Фота аўтара

## З ПІСЕМ ЗЕМЛЯКОЎ

# У нас выкапалі яму

Летась неяк заходзіць Вінцук — цяпер ён камендантам нашых пажарнікаў выбраны — і кажа, каб памагчы пры будове ямы на ваду. Дапамога гэта бясплатная мае быць, значыць, чынам трэ' намагчыся. Рэшта пажарнікаў ды іншых гаспадароў знаёмых — таксама дружна прыняліся за работу; у нядзелю маментальна дол выкапалі вялікі. Нікога два разы прасіць не прыходзілася, бо астатнім часам вёскі суседнія гарэлі страшна, наглядзеліся гора людскога; хто знае, што заўтра ў кожнага з нас можа стацца пры стрэхах саламяных?! Няма чаго і гаварыць, прыдатная яма цэментаваная на ваду для помпы матаровай!

Былі б хутка давяршылі ўсякія работы, каб не тая затрымка доўгая з цэментам. Усюды, куды не кінься, нямаш яго і не. Што тут Вінцук са сваімі даверанымі не пакруціўся, аж якасьці вытаргаваў пад восень ад начальнікаў таго цэменту добрых пару метраў. У пагоду сухую, ледзь не ў самае капанне бульбы, майстры, прывезеныя з горада, дакончылі ўмела, абмуроўку нават зрабілі, каб жывёла якая часамі не ўвалілася. Прыязджалі тады інспектары розныя, аглядалі яму свежую, гладзенькую ад бетону бліскучага, тапталіся, хтосьці фатаграфаваў усё. Ацанілі наш вясковы ўклад працавітасці не менш, як на дзесятак тысяч злотых вартасцю.

Пры тым аказалася, што на майстроў тых мы павінны яшчэ зладжыцца грашыма па пяцьдзесятцы — нямнога, як на вёску людную. Заплаціць ім мусова, бо ж гэта хлеб іхні і заробак. Пачалася бяда - шуміха з крыкамі, енкам. Людзі казалі, што і так напрацаваліся, а плаціць за муляроў нібы з якой рацыі будуць, хай грамадская рада падкіне грошай замест безупынку адно падаткаў дамагацца!!

Выдавалася, што рацыя ясная ва ўсім гэтым, пакуль не задумалі наладзіць урачыстасць на заканчэнне будовы. Эгэ, калі загаварылі пра выпіўку агульную, дык палічылі не меней, як па семдзесят злотых даць ад кожнага, а некаторыя і на сотку стаўлялі свой голас. Збор адбыўся так складна - ладна, без прынукі ніякай, што за два дні больш чатырох тысяч назбіралі. Не тое, што на майстроў аплату праз паўмесяца хадзілімалілі ад хаты да хаты, ласкі вялікай дапрашаліся Вінцук з солтысам.

Не скажу, вечарыну падрыхтавалі добрую, я сама памагала галубцы варыць і селядцы марынаваць. І пірог быў, і мяса з вырабамі наперамену, і зялёнак, а найбольш гарэлкі было, ой, і было ж яе, бы на вяселлі. Што наскладаліся, тое і аддалі на манапольку дарагую, не лічачы купленых пару кілаграмаў каўбас у мясніка тосцям мястовым на стол паставіць. Потым танцавалі хіба да ранку, я пайшла раней спаць, сынок штосьці прыхварэў мой. Назаўтра міліцыя апанавала цэлую вёску, і да нас з роспытамі прыходзілі, бо над ранкам мужчыны на забаве пабіліся моцна. Завяліся з кавалерамі, якіх назбягалася на музыкі адусюль. Не пускалі іх у сярэдзіну, бо гулялі толькі свае, тыя, хто будаваў яму. І за тое пабілі шыбы ў рамізе...

Ведаеш, палічыўшы так усё, што на сталы нарыхтавалі і водкі накупілі, кошт няменшы выйшаў, чымсьці гэты наш чын увесь варты. Вось і ходзяць плёткі, што нам плацілі, і за грошы заробленыя папіліся разам! Бачыш, як людзі нядобрыя праўду дагары перавярнулі?

Нам жа ніхто і грашака абкусанага не даў, усенька ўласнымі магчымасцямі адолелі, і вечарыну таксама.

**Адоль КАСТРЫЦА**

# Каб быў лепшы ўраджай

Каляндарная вясна ўжо пачалася. Незадоўга пачнуцца палявыя работы. Каб дабіцца лепшых ураджаяў трэба добра падрыхтавацца да сяўбы. Як падрыхтаваўся да пасяўной гарадоцкі ГС, расказвае нам намеснік старшыні да спраў скупу і прадукцыі Кастусь Тарасевіч.

— Мы пусцілі ў рух чысцільную машыну на збожжа. Сяляне ёю задаволеныя, таму што яна добра ачышчае збожжа. Прывяду вам адзін прыклад. Мікалай Яроцкі з Меляшкоў прывёз чысціць авёс і яму машына адсартавала 12 кілаграмаў пустазелля. Гэта вельмі многа. Сяўба ачышчаным насеннем напэўна дасць лепшы ўраджай.



**Намеснік старшыні ГС да спраў скупу і прадукцыі Кастусь Тарасевіч.**

Кастусь Тарасевіч расказаў нам аб адной вельмі важнай справе, якая будзе мець у будучыні істотны ўплыў на ўгнаенне палёў. Ёй з'яўляецца прадукцыя кампаставага торфу. У раёне Каралёвага Мосту ад 15 красавіка пачне працаваць тарфярня. Будзе яна прадукаваць торф на ўгнаенне і на паліва.

(мх)

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ



Чуваць гукі гонга. Гэта прыбыў у пасёлак спецыяльны пасланец, каб абвясціць новае распараджэнне ўлад.

# Ці хочаш адбыць пробу агню?

Будзе гэта расказ пра нязвыклую дзяржаву, якая здаўна існуе ў Афрыцы, — Ліберыю. Жыве ў ёй каля 2 мільёнаў чалавек. Ліберыю ўтварылі ў 1822 годзе вызваленыя негрыцянскія рабы, якія вярнуліся назад у Афрыку са Злучаных Штатаў Амерыкі. Да 1847 года Ліберыя была залежнай ад ЗША, кіраваў ёю амерыканскі губернатар.

Паўнапраўнымі грамадзянамі ў Ліберыі з'яўляюцца толькі патомкі даўніх амерыканскіх рабоў, так званыя, амерыкана - ліберыйцы. Туземнае мясцовае негрыцянскае насельніцтва жыве ў нядолі. Зрэшты, вось якія ўражанні нядаўна вывез з Ліберыі французскі падарожнік, малады Жэрар...

✲

...Як-ніяк, дзіўная краіна гэта Ліберыя; тут адміністрацыя жыве ў малых загубленых пасярод пушчы пасёлках. Такі пасёлак з'яўляецца высунутым у туземную тэрыторыю ліберыйскім пастом. Назва «ліберыйскі, ліберыйская» на самай справе недакладная, я б аказаў, памылковая, — датычыць яна ўсяго тых некалькіх тысяч амерыканскіх нявольнікаў, якія занялі Перцавы Бераг і ў 1847 годзе заснавалі сваю незалежную дзяржаву. З'яўляюцца яны свайго роду меншасцю, якая намагаецца каланізаваць туземныя плямёны ўглыбі краіны...

...Размяшчэнне такіх пасёлкаў заўсёды аднолькавае: некалькі простых, пабеленых хат на пагорку, у аддаленні ад туземнай вёскі. Ліберыйскі ўрад, не ведаючы на колькі дружалюбна настроены людзі ў пушчы да яго ўраднікаў, на ўсякі выпадак хоча мець гарантыю бяспекі: у выпадку атакі лягчэй бараніцца на пагорку. Нашы феадалы разумелі так сама. Доступу сцеражэ плот з бярвенняў...

Лік жыхароў у такіх пасёлках ніколі не перавышае трыццаці асоб. Ёсць там акруговы камісар па справах туземцаў, зборшчык падаткаў, некалькі салдат, некалькі жанчын і хмара дзетвары... Улада акруговага камісара велізарная... Ліберыя, дзе канстытуцыя верная копія канстытуцыі Злучаных Штатаў з'яўляецца федэратыўнай дзяржаваю, у якой акругі — гэта на самай справе штаты. Акруговы камісар, якога папулярна завуць «Дусі», з'яўляецца фактычна губернатарам і прытым губернатарам з вельмі шырокімі правамі. Загубленыя ў пушчы адміністрацыйныя пасёлкі, адкуль далёка да сталіцы ды і бездарожжа (няма шашы і гасцінцаў — ся) — усё гэта чыніць губернатара проста малым дыктатарам над даверанай яму тэрыторыяй...

— Заўтра раніцай, — сказаў камісар, які прыйшоў да мяне на веранду, — адкрываю суд...

### ...ЦІ ХОЧАШ АДБЫЦЬ ПРОБУ АГНЮ?

Па другі бок прасторнага дзядзінца пасёлка мітусіўся ўжо ля ўваходу ў гліняную будыніну натоўп начальнікаў плямён, родаў і вёсак. Усе былі апрануты ў павіслыя па пяты цяжкія баваўняныя рызы, пафарбаваныя на белыя і сінія простыя палосы. На згібах рук насілі бранзалеты з леапардавых зубоў, нанізаных на тонкія раменчыкі са скуры слана. Трымалі сябе годна і маўкліва рассядаліся ў крэслах з трыснёгу, што стаялі ў зале...

Правасуддзе ў Ліберыі? Без жартаў!

— ...ці хочаш адбыць пробу агню?

Трасучы чарніліцаю, камісар задаў гэтае грознае і ўрачыстае пытанне негрыцянцы, што стаяла насупраць яго. Цяжка акрэсліць яе век, — вынішчаны твар, дрэнна замацаваная і выцвіўшая павязка. Жанчына вагаецца. Мужчына - чараўнік, які праводзіць пробу агню, ужо расклаў на панадворку вялікае вогнішча. Трашчыць у полымі сухое бамбуковае голле.

- - ...ці хочаш адбыць пробу агню?

Жанчына ўпарта глядзіць пад ногі і не адзываецца. Наколькі паспеў я зразумець, паводле сведчанняў абодвух бакоў справа ў тым, што муж абвінаваціў яе ў здрадзе і хоча прагнаць яе з хаты. У гэтай краіне жанчын купляюць, як хатнюю жывёлу, пэўна, заплаціў за яе цесцю не менш пяцідзесяці долараў. Вялікая сума, нават цэлы скарб тутэйшага чалавека. Калі суд прызнае віну жанчыны, цесць павінен звярнуць назад уплачану яму суму: слабыя жарты!

Ці была вінавата? Цяжка сказаць. Абараняла сябе добра, а трымаючыя яе бок — сям'я на чале з бацькам і начальнік яе роду — доўга сведчылі ў такім самым духу, як і яна. Насупраць іх муж, яго сям'я, начальнік іх роду — сведчылі зусім адваротнае. Каму верыць? Гаварылі, гаварылі, але справа не прасоўвалася наперад. У канцы канцоў павінна было дайсці да гэтага:

— ...ці хочаш адбыць пробу агню?

Жанчына ўсё яшчэ вагалася. У цішыні памяшкання чуваць было гудзенне велізарных сляпнёў, якія балюча кусалі. Начальнікі адмахваліся ад іх мухабойкамі.

Нарэшце жанчына павольлі азвалася, прашаптала.

...так...

...Астрыё нажоў распаленае да беласці. Натоўп чакае ў цяжкім маўчанні. Чараўнік памясіў у пальцах нейкае чарнявае цеста, якое браў з пасудзіны. Падыйшоў да жанчыны і нацёр ёй гэтаю мікстураю лыдку правай нагі. Пасля хапіў за чаранок аднаго нажа, крутнуў ім у паветры і раптоўным рухам дакрануў сваіх валасоў. Валасы затрашчалі, закапцілі, пачуўся пах гару. Натоўп успрыняў гэту дэманстрацыю задаволеным мармытаннем. Для важнасці пробы кожны павінен навочна сцвердзіць, што астрыё адпаведна гарачае.

— Увага!... Першая проба.

Жанчына чакала са статічным спакоем, з зацінутымі вуснамі. На ілбе блішчалі вялікія кроплі поту. Чараўнік падыйшоў да яе, укленчыў, леваю рукою злёгку пагладзіў лыдку, а праваю прыклаў распаленае жалеза да скуры. Цягнулася гэта мінуту. Жанчына ні варухнулася.

Адняў нож ад нагі і кінуў у агонь. Узяў другі:

— Увага!.. Другая проба...

...Калі другое астрыё п р а ў д ы (падкр. — с. я.) адняў ад лыдкі няшчаснай жанчыны, што за палёгка, што за радасць! Натоўп тры разы пракрычаў урра!!! Жанчына ні варухнулася, не азвалася слоўцам...

✲

Значыць, яна невінаватая... (а-ся)

## Крыху пра вашы ногі

У Швейцарыі быў пастаўлен цікавы дослед над касцямі чалавека. Вучоныя задаліся думкай праверыць іх на трываласць. Вынікі праверкі пераўзыйшлі ўсе спадзяванні.

Аказалася, што косці нагі вытрымліваюць груз вагой 1650 кілаграмаў! Гэта амаль у 30 разоў больш за звычайную нагрузку, якая на іх прыпадае, — вагу цела чалавека.

### «ЖАЛЕЗНАЕ» СЭРЦА

Фігуральны выраз «жалезнае» сэрца, які ўжываецца, калі гавораць аб здаровым, вынослівым чалавеку, у пэўнай ступені, набывае прамы сэнс, калі ўлічыць вынікі даследванняў асістэнта кафедры неарганічнай хіміі Рыжскага медыцынскага інстытута Зенты Кнетэ. Ёю ўстаноўлена, што першынство сярод мікраэлементаў, якія ўтрымліваюцца ў сардэчнай мышцы, належыць жалезу. Колькасць яго дасягае 30 міліграмаў на кожныя сто грамаў тканіны (сухога рэчыва).

## ПАВАРОТ З КОСМАСУ





Савецкая доследная ракета вярнулася з палёту ў космас. Звяры, паднятыя ёю на вышыню некалькіх сот кіламетраў, шчасліва прызямліліся ў спецыяльнай скрыні — вялізны парашут забяспечыў удачную «мяккую пасадку».

(а-ся)




### ПАСЛЯ ПЯТНАЦЦАЦІ ГОД

Летняя раніца. Перон Беларускага вакзала ў Маскве. За паўгадзіны да прыбыцця міжнароднага экспрэса сюды прыйшла з букетам кветак прыгожая светлавалосая дзяўчына. Гэта Раечка Гінзбург. Яна працуе ў «Інтурысце» толькі трэці месяц. Сёння яна ад загадчыка бюро абслугоўвання атэля «Нацыяналь» атрымала першае самастойнае заданне: ёй трэба сустрэць прыбываючага ў Савецкі Саюз у якасці турыста прамыслоўца з Заходняй Германіі, пана Гернгроса, да якога яе прыдзялілі ў якасці перакладчыцы на ўвесь час яго турыстычнай паездкі па СССР. Раечка Гінзбург вельмі хвалюецца — гэта ж яе першая, вельмі адказная самастойная праца.

Рая ведала аб пану Гернгросе толькі тое, што яму амаль шэсцьдзесят год. Таму ўсіх пажылых мужчын, якія выходзілі з дзвярэй вагона, яна сустракала ветлівай усмешкай і пытаннем:

— Выбачайце, калі ласка, вы, выпадкова, не пан Гернгрос?

Адзін па-руску адказаў ёй:

— Выпадкова зусім наадварот.

Другі адказаў па-французку:

— На жаль, не, мадэмуазэль...

А вось трэці — высокі і сівы — паглядзеў на яе ўважліва і сказаў:

— Так. Я — Гернгрос. А вы хто?

128

— Я перакладчыца з турысцкага агенцтва. Віншую вас з прыбыццём у сталіцу Савецкага Саюза — горад Маскву. Дазвольце падарыць вам гэтыя скромныя кветкі. — Рая вяла сябе так, як вучылі яе на курсах.

— Цудоўна. Дзякую.

Яны паехалі да атэля...

Увесь дзень Рая дзяжурыла ў пакою перакладчыкаў, чакаючы выкліку Гернгроса. Але яна яму не спатрэбілася. Да снедання ён хадзіў па магазінах. Выходзячы, ён сказаў Раі, што, кіруючыся ашчаднасцю, у магазіны заўсёды ходзіць ён без жанчын. Потым ён абедаў у кампаніі іншых турыстаў і з імі ж вечарам пайшоў на балет.

— А вы ідзіце да папы і мамы, — сказаў ён Раі. — Балет зразумелы ўсім сваім інтэрнацыянальным маўчаннем.

На другі дзень Гернгрос з трыма японскімі турыстамі адправіўся ў Трэцякоўскую галерэю. Рая праводзіла яго да машыны.

— Не крыўдуйце на мяне, Рая, — адказаў Гернгрос. — Але перакладаць карціны таксама не трэба...

У Трэцякоўскай галерэі Гернгрос спачатку прыладзіўся да экскурсіі нямецкай моладзі з ГДР. Экскурсавод на нямецкай мове расказваў даволі цікавыя рэчы, і Гернгрос не нудзіўся. Яго толькі нервавалі занадта ўжо самаўпэўненыя экскурсанты з гэтай Германіі Ульбрыхта. Урэшце ён адыйшоў ад іх і, швэндаючыся па галерэі, зайшоў у залу, дзе экспанаваліся рускія іконы.

О, гэта вельмі цікава! Гернгросу асабліва спадабалася адна з іх, якая была напісана на дрэнна апёсанай дошцы. Здавалася, з самых яе пораў выходзіў жаночы твар са спакойнымі, крыху сумнымі вачыма. Гернгрос не стрымаўся і памацаў ікону пальцам: яму не верылася, што на дошцы ёсць слой фарбы.

— Грамадзянін! Рукамі кранаць забараняецца! — прагучала ў пустой зале.

Гернгрос агледзеўся. На яго строга глядзела худзенькая жанчына ў форменным халаціку галерэі. І раптам ён убачыў, што яе вочы расшыраюцца, яна хоча закрычаць... і не можа... Гернгрос аўтаматычна зрабіў крок назад. Ён разумеў толькі адно: гэта жанчына яго ведае. Ён хуткімі крокамі прайшоў міма яе, а апынуўшыся ў суседняй зале, яшчэ хутчэй накіраваўся да выхаду. На панадворку, распіхаючы людзей, ён імкліва прарваўся да варотаў.

129

Шчасце! З таксі вылезлі і накіраваліся да галерэі дзве дамы. Гернгрос ускочыў у парожнюю машыну.

— Хутчэй наперад!

Шафёр уключыў хуткасць, і машына пакацілася па завулку.

У гэты час да міліцыянера, які дзяжурыў ля пад'езда галерэі, падбегла жанчына ў форменным халаціку. Паказваючы на аддаляўшаеся таксі, яна, цяжка дыхаючы, выдушыла:

— Гестапа!.. Кат!.. Арыштуйце!.. Гестапа!..

— Спярша, грамадзяначка, супакойцеся, — спакойна параіў ёй міліцыянер, але на ўсялякі выпадак усё ж паглядзеў услед таксі і прыкмеціў нумар: ні то 30-32, ні то 30-37. Машына была ўжо далёка... — Ну, супакоіліся, грамадзяначка?

— Божа мой! Бярыце машыну, даганяйце! Ён жа ўцячэ!

— Грамадзяначка, скажыце з сэнсам, што здарылася? Крадзеж?

— Ды не! Вось той, што паехаў... Гэта кат гестапа... Біў мяне... Мучыў... Калі вайна была... Я яго пазнала... Ён спалохаўся і ўцякаць...

— Вось цяпер усё ясна. Як ваша прозвішча?

— Алейнікава. Лідзія Віктараўна Алейнікава. Я тут працую.

— Гэта бачу. Пачакайце. Я зараз.

130

# ТРЫБУНА чытачоў

## НАША ШКОЛА



Чатырохкласная школа ў Рэпісках

У чатырохкласную школу ў Рэпісках ходзяць дзеці яшчэ з двух маленькіх вёсачак: з Васількова і Уснаршчыны. Дзякуючы намаганням кіраўніка, настаўніцы Вольгі Рашчэнкі ў мінулым навучальным годзе школьныя пакоі былі памаляваны, адсвежаны.

Памяшканне школы падзелена на дзве часткі. У адной навучаюцца дзеці, а ў другой знаходзіцца бібліятэка і святліца. І тут часта дэманструюцца кінафільмы, адбываюцца вясковыя сходы. Усё было б добра, каб у святліцы і бібліятэцы была печка. І вось аб гэтым павінен паклапаціцца прэзідыум ГРН у Ласінцы.

**Міша Тэлешэўскі**
вёска Рэпіска

## НАРЭШЦЕ ПАБУДАВАЛІ

У Круглым Ляску (Беластоцкі павет) злеўня малака знаходзілася ў цесным памяшканні. Вазілі сюды малако з навакольных вёсак — Мацейкавай Гары, Полька і Сушчы. Нявыгадна было і людзям і прыёмшчыцы Марысі Кужалеўскай.

У 1960 годзе пры дапамозе малачарні ў Міхалове пабудавалі грамадскім чынам фундамент пад злеўню, зрабілі 150 пустакаў і далей ані кроку. І толькі праз тры гады, восенню мінулага года, узяліся за будову злеўні і нарэшце збудавалі. Цяпер усе гэтым задаволены ў Круглым Ляску. Незадаволены толькі жыхары вёскі Кузьмы. Яны хацелі, каб у іх вёсцы была пабудавана злеўня. Але ў Кузьмах толькі 60 літраў малака сяляне прадаюць дзяржаве, а ў Круглым Ляску 300 літраў. І гэта колькасць продажу малака вырашыла аб лакалізацыі злеўні.

**Янка Кардаш**
Мацейкава Гара

## Над рэчкай Нарвай

Вёска Бандары (Беластоцкі павет) раскінулася над рэчкай Нарвай. Налічвае яна 20 гаспадароў. Ёсць тут дзве крамы і млын. У Бандарах існуе таксама сельскагаспадарчы гурток. Узначальвае яго Сцяпан Багнюк. Па яго ініцыятыве пабудаваны гараж на сельскагаспадарчыя машыны. Даезд у Беласток добры. Прыходзіць у Бандары аўтобус ПКС. Незадоўга жыццё ў вёсцы значна палепшыцца. Справа ў тым, што ў Бандары будзе праведзена электрычнае святло. Будзе таксама перанесена адна крама ў прасторнае памяшканне.

**Мікалай Лаўрашук**
вёска Бандары

**Міліцыянер пайшоў да свайго тэлефона, выклікаў дзяжурнага па гораду і паведаміў аб здарэнні:**

**— Так... 30-32 ці 30-37. Яснашэрая. Прозвішча заявіцеля — Алейнікава Лідзія Віктараўна. Працаўнік Трэцякоўкі... Добра...**

**Шафёр Артамонаў, які павёз Гернгроса, з раніцы быў не ў духу. А гэты пасажыр трапіўся невядома адкуль — гудзе і гудзе: «Хутчэй, хутчэй».**

**— У выпадку чаго мне штраф плаціць, а не вам, — агрызнуўся Артамонаў.**

**— Я плаціць усе штрафы! — рашуча заявіў Гернгрос.**

**Артамонаў упершыню глянуў у люстэрка на свайго пасажыра: здаецца, не рускі?**

**Яны ўжо былі на вуліцы Горкага.**

**— Куды яшчэ? — спытаў Артамонаў ужо больш ветліва.**

**— Наперад і быстра.**

**— Ясна...**

**А што ясна, невядома. Будзе потым кудахтаць: ах, мне трэба было направа, ах, налева!**

**— Калі ласка, адвязіце мяне Беларускі вакзаль.**

**— Вось цяпер усё ясна. Да поезда?**

**— Станцыя метро, пожалюста.**

**Ля станцыі метро Гернгрос выскачыў з машыны, сунуў Артамонаву пяць рублёў і тут жа змяшаўся з людскім патокам, які ўліваўся ў дзверы метро. Артамонаў паглядзеў на лічнік — 47 капеек. Потым пагледзеў на новенькую пяцёрку і вырашыў: «Трэба пачакаць — успомніць, вернецца за рэштай».**

**Але пасажыр не вярнуўся.**

**(Працяг за тыдзень)**

131

## Наш бібліятэкар

Бібліятэкарам у Завадах (Лапскі павет) працуе Ліля Шкель. Гэта маладая дзяўчына нядаўна закончыла сярэднюю школу і першы год працуе ў бібліятэцы. І добра працуе. Яна завяла ў бібліятэцы парадак, патрэбныя картачкі да кожнай кніжкі, аблажыла кніжкі паперай, уладжыла іх паводле алфавіту. Многіх людзей Ліля Шкель заахвоціла чытаць кніжкі, умее падабраць кожнаму літаратуру паводле яго зацікаўленасці. Зараз бібліятэка ў Завадах робіцца культурным цэнтрам вёскі.

А што было перад гэтым? Павятовыя ўлады хацелі закрыць гэту ўстанову, таму што ў ёй быў сапраўдны балаган і не было чытачоў, а бібліятэкар Люцына Семянюк зусім не спраўлялася са сваімі абавязкамі.

Пры бібліятэцы ёсць зараз чытальня, дзе заўсёды можна пачытаць газеты і часопісы. Ліля Шкель намагаецца добра выконваць свае абавязкі і таму вырашыла карэспандэнцыйна вучыцца прафесіі бібліятэкара.

**У. Д.**
Лапскі павет

## Тарнопальскі сельгасгурток

З кожным годам сельскагаспадарчы гурток у Тарнопалі мае большыя дасягненні. Ёсць ужо трактар і мноства розных сельскагаспадарчых машын і прыладаў, як, напрыклад, два малацільныя агрэгаты, зернедрабілка і крайзэга. Старшынёй сельгасгуртка з'яўляецца Аляксандр Васько, а трактарыстам — Мікалай Засім.

У гэтым годзе колькасць сельскагаспадарчых машын зноў павялічыцца. Гурткоўцы сёлета запланавалі купіць касілку, распыльвальнік і яшчэ адзін трактар з поўным камплектам машын. Другім трактарыстам у вёсцы будзе Мікалай Садоўскі, які ўжо праходзіць спецыяльны курс.

**Славамір Садоўскі**
Тарнопаль

## Без адпачынку

Планы новых будоўляў Гайнаўскага ПЗГС не ўлічваюць перапынку. 1964 год пройдзе пад знакам спецыяльных пабудоў для сельскай гаспадаркі: будова чатырох пунктаў скупу жывёлы — у Гайнаўцы, Нараўцы, Кляшчэлях, Нарве; будова пякарні ў Белавежы; разлеўні газіраваных вод у Нарве, Нараўцы, Кляшчэлях; будова складаў на штучныя ўгнаенні і сродкі аховы раслін у кожным ГС, г.зн. 5 аб'ектаў. Усё разлічана на 23 мільёны зл. Выканаўства — уласнай, ужо загартаванай у працы рамонтна-будаўлянай брыгадай «Чын».

(вл)

## Аграном нашай вёскі

У нашай вёсцы Тарнопаль ёсць аграном Ян Бойка. У яго заўсёды многа працы. Ён раіць сялянам, дзе што пасеяць, дзе якія патрэбны мінеральныя ўгнаенні, як апрацоўваць глебу, калі сеяць, як захаваць у зямлі больш вільгаці. Гаспадары задаволены працай Яна Бойкі. У хаце яго можна застаць толькі вечарам. Калі аграном мае вольны час, памагае на гаспадарцы сваім бацькам.

**Казімір Бірыцкі**
вёска Тарнопаль

### НА ЭКЗАМЕНАХ

Нядаўна ў Бельску адбыліся экзамены для слухачоў школ сельскагаспадарчай падрыхтоўкі На экзамен прыбыло 21 навучэнцаў. Здало 16 асоб. Найлепш здавала экзамены моладзь з вёскі Галады.

**Стась**

## Санітарная вучоба

У нашай школе існуе гурток Польскага чырвонага крыжа. Вучні VI і VII класаў два разы ў тыдзень ходзяць на заняткі па санітарыі. Усе вучні ахвотна бяруць удзел у гэтых уроках. У будучым санітарныя веды кожнаму могуць спатрэбіцца, кожны зможа аказаць першую дапамогу пацярпеўшаму.

**Мікалай Харкевіч**
Ляшукі

## Граматна...

Гэтак называецца вёсачка, якая знаходзіцца сярод лесу і балот Ляцкай пушчы. Жыве тут толькі шэсць гаспадароў. Кожны жыхар Граматнай мае магчымасць пазнаёміцца з усімі цікаўнасцямі пушчы: паслухаць спеў птушак, убачыць уцякаючага зайца, дзікіх свіней ці коз. Паветра ў пушчы чыстае, прыемнае. Летам тут шмат ягад, а восенню грыбоў. Прыемна жыць сярод лесу. Тым больш, што непадалёк вёскі плыве рэчка Нараўка.

**Кастусь Сянкевіч**
Граматна

### ПІСЬМАНОСЕЦ КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ

Жыхар Ляшукоў Кастусь Каліноўскі працуе пісьманосцам на пошце ў Старым Ляўкове. Кастуся Каліноўскага штодзённа чакаюць не толькі жыхары вёсак, але і таксама школьнікі, якім ён прыносіць пісьмы, газеты і часопісы. У пісьманосца даволі вялікі раён абслугі, але ён дае рады, заўсёды на час даставіць сялянам і школам пошту.

**Мікола Казлоўскі**
Навіны

## Дзе сыноўскія пачуцці?

У вёсцы Плёскі (Бельскі павет) жыве Васіль Барута. Цяпер яму 50 год. Да нядаўна Васіль жыў з жонкай Вольгай і сынам Пятром. Зямлі ў Васіля каля 9 га. На гаспадарцы цяжка ім жылося. Шмат гектараў, шмат абавязкаў. Калі сын стаў дарослым чалавекам яму не спадабалася цяжкое жыццё бацькоў. Ён выехаў на заходнія землі, там добра абсталяваўся і забыў пра бацькоў. Бацькі далей цяжка працавалі. Маці захварэла, а праз нейкі час памерла. Бацька выслаў тэлеграму сыну, каб прыехаў на пахаванне маці. Але сын не прыехаў, не напісаў нават пісьма свайму бацьку. Зараз жыве гэты чалавек адзінока. А сын ведае, што бацьку вельмі цяжка жывецца, аднак не адгукнецца, не патрэбны ўжо яму бацька.

Дзе ж сыноўскія пачуцці, дзе ж чалавечасць, сумленнасць?

**К.О.**




Дарагое **Сэрцайка!**

Я з'яўляюся сталым чытачом «Нівы». З вялікай цікавасцю чытаю пісьмы маладых дзяўчат і хлопцаў, замешчаныя ў кутку «Сэрцайка». Справы, парушаныя ў гэтых пісьмах, вельмі сур'ёзныя і важныя для моладзі. Пісьмо Валодзі з Беластоцкага павета, па-мойму, годнае пахвалы, таму што ён смела і адважна выступае супраць такіх хлопцаў, як Коля. Мне 20 год і я ўжо разумею добра пастулкі моладзі. На жаль, сярод нас ёсць вельмі многа такіх хлопцаў, якія паступаюць так з дзяўчатамі, як Коля з Аняй. Ды яшчэ такія хлопцы свае нікчэмныя ўчынкі лічаць за гонар і хваляцца гэтым. Такія з'явы вельмі шкодныя і мы, менавіта мы, маладыя хлопцы, павінны з усёй энергіяй уступіць у барацьбу з гэтым у доказ нашага мужчынскага гонару. Нельга, каб дзяўчына была нешчаслівай з-за нашых лёгкадумных учынкаў. Многія хлопцы думаюць, што дзяўчаты толькі і створаны для таго, што дзяўчына нічога не траціць і нічога ёй не будзе. Гэта няпраўда. І мы павінны зразумець гэта. Наш абавязак дапамагаць жанчынам, а не ашукоўваць іх дзеля сваёй прыемнасці і лёгкадумнасці. Мы не дацэньваем, бо не разумеем, які цяжар і сорам пераносіць ашуканая дзяўчына. Не раз гэта канчаецца яе маральным упадкам, а нават трагедыяй. А яна ж перад тым верыла нам, спадзявалася ад нас чагосьці іншага, годнага сапраўднага мужчыны. Яна ў доказ свайго кахання аддае нам усё, а мы ёй за гэта плацім здрадай і насмешкамі. Не, сябры! Час сур'ёзна падумаць аб тым, што мы, іменна мы павінны адказваць за свае ўчынкі. Гэтага патрабуе гонар сапраўднага мужчыны. Гэтага патрабуе абавязак жыцця, наша будучыня, наша шчасце і асабліва шчасце дзяўчат. Я вельмі спачуваю пакрыўджанай Ані і веру, што знойдзецца сапраўдны мужчына, які яе зразумее і дацэніць. Тады да яе вернецца заслужанае шчасце і вера ў мужчын, таму што не ўсе яны такія подлыя, як Коля.

**Коля з Катавіц**

## КІНО

**Праграма на 13—19.IV. 1964 г.**

**ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ**

**Белавежа**
„Powiernik pań" (franc.), 14—16. „Milczenie" (polski), 17—19.

**Кляшчэлі**
„Sztubak" (czeski), 14—16. „Ballada huzarska" (radz.), 17—19.

**Дубіны**
„Przygody Krosza" (radziecki), 18—19.

**Нараў**
„Opowieść o prawdziwym człowieku" (radziecki), 15—19.

**Нараўка**
„Strachy zamku Spessart" (NRF), 18—19.

**Чаромуха**
„Powiernik pań" (franc.), 14—16. „Trzynastego nocą" (bułg.), 17—19.

**Чыжы**
„Sprawa Niny B" (franc.), 15—19.

**БЕЛЬСКІ ПАВЕТ**

**Боцькі**
„Torreador" (meksyk.), 15—19.

**Бранск**
„Znów ku gwiazdom" (radz.), 14—16. „Przemytnik z Piemontu" (franc.), 17—19.

**Гродзіск**
„Kozara" (jugosł.), 18—19.

**Орля**
„Diabeł morski" (radz.), 15—19.

**Райск**
„Siedem nianiek" (radz.), 15—19.

**БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ**

**Гарадок**
„Koledzy" (radz.), 14—16. „Czarny monokl" (franc.), 17—19.

**Міхалова**
„Zwycięstwo nad Wołgą" (radziecki), 14—16. „Gdzie jest generał" (polski), 17—19.

**Супрасль**
„Drugi tor" (NRD), 14—16. „Szesnasta wiosna" (radziecki), 17—19.

**Чорна Беластоцкая**
„Ludzie i bestie" I s. (radz.), 14—16. „Ludzie i bestie" II s (radz.), 17—19.

**СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ**

**Мельнік**
„Płonąca wyspa" (radz.), 14—16. „Czarny monokl" (franc.), 17—19.

**Мілейчыцы**
„Kapral w matni" (francuski), 14—16. „Ballada huzarska" (radz.), 17—19.

**Нурэц**
„Rudy" (radz.), 14—16. „Gdzie jest generał" (polski), 17—19.

**САКОЛЬСКІ ПАВЕТ**

**Сідра**
„Ewakuacja" (radz.), 14—15. „Weekendy" (polski), 16—17. „Kiermasz" (NRF), 18—19.

**Крынкі**
„Ziemia aniołów" (węg.), 14—16. „Kanciarze i Spółka Akcyjna" (angl.), 17—19.

**Сухаволя**
„Droga do przystani" (radz.), 14—16. „Nieznajomi z pociągu" (USA), 17—19.

**Шудзялава**
„Po latach" (radz.), 15—19.

**ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ**

**Ліпск**
„Ulica Andrzeja Krutikowa" (radz.), 18—19.

**Новы Двор**
„Ich dzień powszedni" (pol.), 18—19.

**Ружаны Сток**
„Człowiek zza biurka" (włos.), 14—16. „Milczenie" (pol.), 17—19.

